# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня. Віленская вул. 33. Рэдакцыя адчынена: 11—1 штодня апрача сьвяточных дзён. | Цана кожнага нумэру 5 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаукай да хаты). Цана абвестак: 5 м. за радок петыту (на апошняй стр.). |
|---|---|

**Год I. Вільня. Чацьвер, 28 красавіка 1921 г. № 5.**


# Польская статыстыка насяленьня Заходняй і Цэнтральнай Беларусі у 1919 годзе.

Беларусь у нашые дні—гэта край, дзе працэс нацыянальнага усьведамленьня шырокіх народных мас яшчэ не закончыўся. Вайна і рэвалюцыя ўзмоцнілі і прысьпешылі гэты працэс, так што за тые 7 гадоў, як яны трываюць, у народнай псыхалёгіі зрабіліся аграмадные зьмены, такіе зьмены, якіх чакаць трэба, здавалася, вякамі. Але пэрыод гэтых бурных гадоў яшчэ не закончыўся, нейкай сталай раўнавагі яшчэ і дагэтуль ня маем. Дзеля таго і цяпер яшчэ у нашым краі побач з людзьмі саўсім сьвядомымі ёсьць масы людзей нясьвядомых, альбо такіх, якім „ўсё роўна“, хто яны. І цяпер яшчэ Беларусь выдзяляецца спаміж іншых краёў Эўропы нявыразнасьцю нацыянальнага твару свайго насяленьня.

Такое палажэньне, ведама, робіць вельмі цяжкім правядзеньне статыстычных дасьледаў пры іх праўдзіва-навуковай пастаноўцы. Але з другога боку гэта дае магчымасьць рабіць усялякіе „статыстычные“ штукі, якіе так патрэбны бываюць іншы раз у нашые часы,—часы торгу з за чужой зямлі, з за чужой душы. Палякі ўжо даўно раструбілі па ўсяму сьвету, што гэткіе штукі рабілі ў нас расейцы. І трэба сказаць, што гэта праўда. Але расейцы займаліся гэтакім статыстычным фальшэрствам досіць незграбна: можа сумленьне грызла царскіх чыноўнікаў, ці страх, каб не перасаліць, але навет найгоршые „западнорусскіе“ статыстыкі, перакручваючы статыстычные цыфры, сумысьля стаўляючы люднасьці незразумелые для яе альбо проста провокацыйные пытаньні, усё-ж аглядаліся пакрысе на праўду, на голас безстароннае навукі. І затым расейскімі даннымі, наагул кажучы, паправіўшы іх, можна карыстацца: яны хоць сапсованы, але ня грунтоўна. Што іншае—польская статыстыка. Проста дзіву трэба дацца, калі пабачым, як людзі з нейкім усёж вучоным імям абвяшчаюць на ўвесь сьвет — на некалькіх эўрапэйскіх мовах такіе статыстычные данные, якіе іначай нельга назваць, як ашуканствам грамадзкае думкі, ці мо' ляпей — проста самаашуканствам. Бо дапраўды, каго хочуць ашукаць гэтые статыстыкі і хто ім паверыць, калі яны кажуць, што ў такім напр. Ашмянскім павеце ёсьць усяго толькі... 6 прац. беларусаў? Толькі хіба самых сябе, свае грамадзенства, якое сьлепа веручы ў аўторытэт сваіх вочоных прафэсараў, будзе спаць сабе ды сьніць сны аб польскай Ашмяншчыне, ды яшчэ сваіх палітыкаў горшага гатунку, якіе зробяць вывады з гэтай статыстыкі, што „ніякіх беларусаў няма“ і г. д.

Вось-жа вельмі добрым абразцом гэтага гатунку статыстыкі ёсьць сьпіс люднасьці на абшарах, адміністраваных Цывільным Уралам Усходніх Зямель. Адбыўся гэты сьпіс у сьнежні 1919 году, а сёлета выйшла кніжка, якая зьмяшчае ў сабе данные, атрыманые ад гэтага сьпісу, з большага апрацаваные праз Э. Ромэра, львоўскага прафэсара. Выдана кніжка ў трох мовах (польскай, француская і ангельскай), выдана вельмі прыгожа, ёсьць пры ёй цікава апрацаваная карта (праўда і дарагаж ацэнена—360 марак за невялічкі сшыток)! Дзеля таго, што сьпіс гэты абыймае блізка што выключна беларускіе абшары, а цыфры яго адносяцца да такога блізкага часу, дзеля таго ўрэшці, што ў кнізе падаюцца данные *па асобным воласьцям*, чаго дагэтуль мы ня мелі, варта гэтаю кнігаю бліжэй зацікавіцца.

Але бліжэйшае абзнаёмленьне з кніжкаю

нас разчаруе. Хто хоць крыху знае Заходнюю Беларусь і пашукае у сьпісе знаёмую воласьць, прачытае аб ёй самые не падобные да праўды рэчы. Праўду кажучы, гэтага і трэба было спадзявацца. Сьпіс павінен быў служыць пэўным палітычным мэтам і ён ім верна служыць. Гэтые мэты праглядаюць з паміж цыфраў і дарогаю параўнаньня даюцца лёгка выясьніць.

Тым часам ня маем мы яшчэ абшырнейшага матэр'ялу аб тым, якім спосабам адбываўся сам перапіс, як быў зарганізованы, хто і як ім кіраваў, як задаваліся пытаньні і г. д. Усё гэта было зроблена шыта-крыта: Беларусь і не агледзілася, як яе перапісалі. Няма аб гэтым блізка што нічога і ў кнізе, аб якой мова. Але ўсім ведама, што падобные перапісы адбываліся ў розных мясцох досіць часта. Рабілі іх напр. „Страж Крэсовая“ і падобные ёй арганізацыі, а называліся такіе экспэрымэнты „пробным плебісцытам“. Сьпісуюць, значыць, хто за Польшчу, а хто не. Відаць, што і ў данным выпадку справа звычайна ставілася як раз такім спосабам. Бо як іначай растлумачыць, што каля 80 прац. беларусаў-каталікоў запісана палякамі? Хіба ўжо так, што ў пэўных вакругох даваліся простые наказы: пісаць усіх каталікоў—палякамі дый годзі, за тым, можа, рэдкім выняткам, калі хто адважыцца надта ўжо проці таго спрачацца. Што і такіе рэзкіе фальшы маглі быць, мы далей зможам пераканацца. Але, бяручы навет і першые, больш карысна для палякоў тлумачэньне і прызнаючы, што каталікі-беларусы ў пераважаючай большасьці выказаліся за Польшчу, мы мусім адзначыць, што гэта усё-ж ня робіць з іх яшчэ палякоў. Адна рэч палітычная орыентацыя, другая—нацыянальнасьць. Саўсім надарэмна, лічым мы, частка польскай грамадзкай думкі падаграває свае імпэрыялістычные апэтыты даннымі гэтай „крэсовай“ статыстыкі. Ім пэўне здаецца, што Заходняя Беларусь ужо не Беларусь, але нейкая Новая Польшча, ці прынамсі—Польская Літва. Хвілёвые настроі люднасьці, змучанай вайной і жадаючай супакою, хочуць яны лічыць за аснову нацыянальнага яе самавызначэньня. Вось-жа, хто прыглядаўся ў апошніх гадох да жыцьця Заходняй Беларусі, главным чынам да жыцьця яе вёскі, той гэтых надзей не падтрымае. Каталіцкая Беларусь, якая першая падняла штандар нацыянальнага адраджэньня, не выпускае яго і дагэтуль са сваіх рук. І можа нідзе на Беларусі няма гэтак свядомай вясковай люднасьці, як на захадзе, асабліва у Віленшчыне.

Але годзі аб каталіцкай Беларусі! Аб праваслаўных беларускіх масах здавалася-б

---

Францішк Аляхновіч.

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 1, 2, 3 і 4).

ЯДЗЬКА (ц а л у ю ц ц а). Я—далібог — ня ведаю, як ужо табе дзякаваць, Пауліначка!

ПАУЛІНА. Ну, што там дзякаваць! Насі на здароўе. Мне гэта паліто зусім не патрэбна.

ЯДЗЬКА. Ах, шчасьлівые вы, Паўліначка! Усяго ў вас ёсьць. Твой муж зарабляе шмат грошай.

ПАУЛІНА. Сама ты вінавата, Ядзя, сама! Я табе колькі разоў казала, як ты прыбегала да нас раіцца плюнь ты на свайго Васілька! ня зьвязывай ты з ім жыцьцё свае!.. Ты-б магла куды ляпей выйсьці замуж... Ня слухала мяне,— вось бачыш, чыя была праўда.

ЯДЗЬКА. Не, не кажы гэтак, Паўліна! Ты яго добра ня ведаеш. Ен добры чалавек!

ПАУЛІНА. Што з гэтага, што добры, калі вар'ят... Ха-ха-ха! паэт! Замест таго, каб жыць і працаваць, як усе людзі, ваабразіў сабе, што ён нейкі інакшы чалавек: то таго ён ня хоча, то гэтага... Вялікі чалавек, падумаеш!.. (а б н і м а е Я д з ь к у). Але выбачай, Ядзя, што я гэтак яго крытыкую. Ты, здаецца, яшчэ дагэтуль закахаўшыся ў сваім Васільку?

ЯДЗЬКА. Не, нічога... ўсё роўна...—Але ён цяпер піша нейкую драму. Кажа, што як яе скончыць, дык дастане шмат грошай і здабудзе славу.

ПАУЛІНА (і р о н.). Але! Дастане! Хто яму дасьць? Можа гэтые ягоные галадранцы беларусы? Можа гэты яго рэдактар Багдзевіч, што сам у дзіравых ботах ходзіць. Э! адзін сьмех з усяго гэтага... Вось цяпер ёсьць служба ў хлебным бюро на месца Ігнатовіча, каторага перавялі ў цэнтральнае!.. Што-ж, калі-б твой Васілёк хацеў можна-б было яго там устроіць.

ЯДЗЬКА (р а д а с н а). Ах, Паўліначка мая! Як гэта добра! Я буду яго прасіць, каб ён пастараўся дастаць гэтую службу. Кажы-ж толькі да каго трэба зьвярнуцца, каб далі гэтае месца?

ПАУЛІНКА. Няхай заўтра прыдзе да майго мужа ў канцалярыю. Ен яго ўстроіць. Мой муж надта вам спачувае і з ахвотай паможа. Мой муж усюды мае знаёмствы; і ён калі скажа толькі адно слова, для яго ўсё зробяць.

ЯДЗЬКА. Ах, Паўліна! Якая ты добрая, дзякую табе! ты гэтулькі дабра мне робіш!..

ПАУЛІНА. Ну, глупства, мы-ж старые прыяцелькі... Я і муж мой ахвотна вам заўсёды памо-

немагчыма спрачацца, бо тут ужо ня толькі этнографічные адзнакі, мова, быт і інш. моцна адрожніваюць яе ад палякоў, ня толькі нацыянальная сьвядомасьць, але і орыентацыя: маюць яны такі антыпольскі настрой, што падазраваць у іх якіе-небудзь сымпатыі да нашай заходняй суседкі проста такі не выпадае. Хаця-нехаця мусілі і польскіе статыстыкі запісаць гэтую частку беларускага народу беларусамі. Дзеля таго аднак, што паміж беларусамі каталікамі і праваслаўнымі розьніцы этнаграфічнай папраўдзі няма, ды дзякуючы розным мясцовым варункам натрапілі „крэсовые статыстыкі“ на нікаторые труднасьці. Адарваўшыся раз ад навуковага грунту і падрабляючы данные пад сваю палітычную доктрыну, яны ужо не спыняліся і перад самымі грубымі фальсіфікацыямі. Часта праваслаўные беларусы жывуць перамяшаўшыся з каталікамі ў роўным меньш-больш ліку, альбо жывуць між іх астравамі, дзякуючы чаму частка валасьцёў у тых паветах, якіе ўжо даўно варшаўскіе палітыкі залічылі бязспрэчна польскімі (напр. Горадзенскі, Ашмянскі, Лідзкі, Ваўкавыскі), маюць праваслаўную большасьць. Саўсім натуральна, што ў такіх мясцовасьцях якраз наймацней разьвіта нацыянальная сьвядомасьць, што падцьвярджаюць і ўсе безстароньніе дасьледчыкі. Па „статыстыцы“-ж яно выходзіць якраз наадварот: тут праваслаўные беларусы пазапісаваны то проста палякамі, то „тутэйшымі“, то ўрэшці—маскалямі. Вось-жа гэнае незразумелае зьявішча саўсім лёгка вытлумачыць, калі згадаць, што „статыстыкам“ хадзіла аб тое, каб „выпраставаць граніцу“.

З разгляду данных можна зрабіць такі вывад, што для паасобных паветаў былі пры гэтым асобные палітычные інструкцыі. Асабліва зграбна сфальшаваны Ашмянскі павет. Павет гэты, як ведама, належыць да найбольш сьвядомых з нацыянальнага боку. Ніякіх палякоў, апроч некалькіх вялікіх паноў, там няма. Але дзеля ўсё тэй самай тэорыі, што каталікі-беларусы павінны быць палякамі, павет гэты заўсёды польскіе аўтары лічаць польскім. Робяць гэтую памылку навет госьць паважные спаміж іх людзі. Ведама, што гэтые „статыстыкі“ не маглі дапусьціць, каб у такім „польскім“ павеце, ды апынуліся беларусы. Яны, проста кажучы, зрабілі статыстыку. Перад усім далучылі каталікоў—запісалі іх усіх палякамі. З 23-х валасьцёў у 19 валасьцёх павету болшасьць каталіцкая і ўсе гэтые валасьці паказаны як польскіе. Але на ўсходзе павету у 4-х валасьцёх праваслаўная большасьць. Як тут зрабіць? Пісаць палякамі нязручна, занадта відочны фальш. Пісаць беларусамі небяспечна. Гэта можа паставіць польскасьць усяго павету пад запытаньне. Пастанавілі

---

жаму.. Толькі-ж ты, калі ласка, пастарайся вылячыць сваёго Васілька ад гэтай яговай беларускай справы. Калі хоча пісаць свае нейкіе драмы, хай піша, калі часу і паперы не шкадуе, але-ж няхай не кідаецца людзём асвой у вочы. Вось нядаўна ў Пшэпёнткоўскіх быў гэтакі палітычны вечар-раўт. Папрасілі там і твайго Васілька, як прадстаўніка ад беларусаў... Але ты мусі ведаеш усё гэта?

ЯДЗЬКА. Не, нічагусенькі ня ведаю... Ну? ну і што?

ПАУЛІНА. Вось, звачыцца, быў там і твой Васілёк. Пры стале, калі ўсе разьселіся піць гарбату, пан Пшэпёнткоўскі—вельмі разумны і паважны чэлавек—кажа: „уся гэтая беларуская справа—гэта політычная інтрыга, прыдуманая, каб пасварыць тутэйшае грамадзянства, а гэтые беларускіе дзеячы — людзі падкупленые“... І пачуў гэтые словы твой Васілёк — і вось дык скандал! Ускочыў ад стала, зьбялеў, як палатно, кінуўся да пана Пшэпёнткоўскага, схваціў яго адной рукой за бараду, а другой махае яму гэтак перад носам і крычыць як ашалеўшы: пан сам—кажа—прадажная душа! вазьмеце свае словы назад!.. Усе страшэнна перэпалохаліся, усхапіліся з сваіх мясцоў і кінуліся ратаваць беднага пана Пшэпёнткоўскага... Твой Васілёк яшчэ нешта крыкнуў, — слоў я ня чула,—стукнуў кулаком па стале і пабег. Усе думаюць, што ён быў дужа пьяны... А пан Пшэпёнткоўскі пасьля гэтага здарэньня колькі дзён хварэў. Кажуць, што дастаў атакі сэрца, бо ў яго сэрца кволае...

ЯДЗЬКА. Божа-ж мой! Які скандал! Калі-ж гэта было?

ПАУЛІНА. А нядаўна.. Так два тыдні...

ЯДЗЬКА. Ах, Боханька ты мой! Вось дык авантура!.. І нічога ён мне не сказаў!.. Божа мой! Ён і так мае тут гэтулькі ворагаў, усе і так адносяцца да яго, як да чэлавека зьбіўшагася з панталыку, а ён яшчэ ў чужым доме зрабіў гэткую бравэрыю!

ПАУЛІНА. Вось-жа я пра тое, што ня трэба рабіць гэтакіх бравэрыяў. Кожны мае сваю idée fixe, але-ж ня трэба гэта ўсім паказваць, вырываць людзём за сваю idée fixe бароды — ха-ха!.. Ты-ж ведаеш, як у нашай Вільні ўсялякая чутка скора разыходзіцца. Тут у нас папсаваць сабе renomé вельмі лёгка.. Выбачай, але я табе скажу шчыра: аб тваім Васільку ўжо ўсе інакш ня кажуць, як: гэты звар'яцелы беларускі паэт! Гэта чэлавеку шмат шкодзіць. Дзеля таго яму і трудна дастаць якуюсь добрую службу...

(Працяг будзе).

запісаць беларусаў-праваслаўных „тутэйшымі“. Тутэйшы“ значыць несьвядомы чалавек, хто яго ведае:—можа і паляк, можа і не. І вось у той час як у глухіх палескіх нетрах уся люднасьць аказалась сьвядомаю сваёй нацыянальнасці і назвала сябе беларусамі, тут, дзе найбольш граматных, адкуль шмат людзей было ў беларускіх прасьветных, бежанскіх, і іншых арганізацыях, ды і цяпер за часоў польскага панаваньня істнуюць сотні беларускіх школ, разыходзіцца найбольш беларускіх кніжак і газэт, вось тут аказалася найбольш несьвядомая часьціна Беларусі! А праф. Ромэр, які ня мог гэтага не заўважыць, каб схаваць канцы у ваду, прыдумаў навет „навуковае“ тлумачэньне гэтаму звычайнаму фальшэрству. Бачыце, кажа ён, тут спатыкаецца ўсходняя культура з заходняй і жыхар Ашмяншчыны сам ня ведае, ў які бок яму паткнуцца, дык і называе сябе тутэйшым— значыць устрымліваецца ад абазначэньня нацыянальнасьці. Усё гэта можа і праўдападобна на паперы, але ў жыцьці бывае якраз наадварот. У мясцох, дзе спатыкаюцца дзьве нацыянальные, ці рэлігійные групы, адбываецца барацьба, якая ўцягівае ў сябе навет няпоўналетных (хіба ня вучаць нашые дзеці па ўсей Заходняй Беларусі: Kto ty jesteś?—polak mały).

Тым часам, як у Ашмянскім і цэлым радзе іншых паветаў перапісчыкі відаць мелі агульную павятовую інструкцыю, у некаторых паветах валасное начальства рабіла перапіс на сваю руку. Бо як іначай растлумачыць такіе штукі: у валасьцёх Іжскай, альбо Хаценчыцкай, Вялейскага павету трэба са сьвечкай шукаць маскаля — і ніводнага ня знойдзеш. Хіба які духоўны, прыехаўшы з Расеі ў даўные часы, прызнае сябе маскалём. Таксама няма маскалёў і ў суседніх валасьцёх. І тым часам, як па ўсім павеце праваслаўные беларусы запісаны беларусамі, у Іжскай воласьці польская статыстыка паказала 81,6 проц. маскалёў, а ў Хаценчынскай 60,8 проц. На жаль, ня маем мы сьпісу тых асоб, якіе кіравалі перапісам у гэных валасьцёх, але пэўна не памылімся калі скажам, што гэта былі эн-дэкі.

А вось Дзісьненскі павет, дык відаць увесь трапіў у эндэцкіе рукі. Гэты павет, які таксама вызначаецца нацыянальнай сьвядомасьцю і чыста беларускім насяленьнем, польская статыстыка робіць... расейска-польскім. Люднасьць каталіцкая, пераважаючая у 9 валасьцёх, уся блізка запісана на палякоў, з праваслаўных-жа беларусаў каля 70 проц. запісалі маскалямі І такім чынам выйшла, што ў валасьцёх Богінськай, Чарэскай, Яменскай, Мікалаеўскай, Пастаўскай, Перабродзкай, Стафанпольскай і Залескай пераважаюць маскалі. Тым часам, як праўдзівых маскалёў (стараверяў) у павеці вельмі мала і тольні ў аднэй воласьці (Перабродзкай) яны дасягаюць аднэй трэці люднасьці, большасьці-ж, ведама, нідзе ня маюць. Саўсім ясна, што і ў гэтым павеце статыкаю кіравалі людзі, якім хацелася абавязкова зацерці беларускі характар краю, ідучы пры гэтым на такі, навет з тактоўнага боку незразумелы крок, як запісываньне беларусаў маскалямі. А быць можа, гэта ўжо тады эндэцыя гатавала сабе аргумэнты, каб іменна ў Дзісьненскім павеце зрабіць безпасрэдную граніцу Польшчы з Расеяю? Магчыма і гэта.

Усе пададзеные тут факты, здавалася-б, саўсім ясна паказуюць вартасьць сьпісу людпасьці Беларусі аб якім мова, а часткаю—і наогул польскай статыстыкі. Уфарбаваная статыстыка, узалежненая ад палітычных пагляд аў Ураду і кіруючых груп грамадзянства, яна ня мае ніякага права называцца навуковаю статыстыкаю, а вывады яе маюць толькі суб'ектыўную вартасьць; яны паказуюць тое, што хацелі бачыць асобы, кіраваўшые перапісам, а ня тое, што ёсьць. У пашырэньні гэтай характарыстыкі на ўсю польскую статыстыку нас падтрымліваюць адносіны праф. Ромэра, віднейшага прадстаўніка польскай навукі, да данных перапісу, аб якім мова. У сваёй прадмове праф. Ромэр называе перапіс „адным з найлепшых твораў“, гаворыць аб „вялікасьці і значнасьці справы, якую зрабіла польская адміністрацыя, і адным словам не знаходзіць слоў, каб належна пахваліць гэты, як мы бачылі, статыстычны фальсіфікат. Але відаць ня досыць веручы сваім уласным словам, запрасіў ён яшчэ амэрыканскага вучонага Дуранда, каб той сваім аўтарытэтам падмацаваў... праўдзівасьць данных.

Ці дзеля незнаёмасьці з мэтодамі гэтай статыстыкі, ці можа дзеля якіх прычын тактычных (п. Дуранд—сябра амэрыканскай тэхнічнай місыі ў Польшчы), выдаў п. Дуранд ліст, у якім ён, праўда досыць нясьмела, кажа, што „ёсьць шмат фактаў, якіе прыхіляюць яго да мяркаваньня, што гэтые данные адпавядаюць праўдзе“. З далейшага цягу ліста відаць аднак, што шаноўны амэрыканец ня мае паняцьця аб нашых варунках. У яго напр. довадамі правільнасьці лічацца такіе факты—што лік перапісчыкаў быў вялікі, што гэта усё былі асобы цывільчые і г. д. Ен таго ня ведае, што гэтые цывільные асобы вымуштраваны ляпей за усялякае войска і што якраз ад войска мы маглі-б спадзявацца больш справядлівага асьвятленьня фактаў, бо яно не знаходзіцца пад уплывамі „Стражы Крэсовай“ і усялякіх рэакцыйных арганізацый. Але, ведама, ад амэрыканца трудна вымагаць, каб ён знаў усе гэтые „тонкасьці“. Што іншае—праф. Ромэр. Ен што робіць,—робіць сьвядома.

Пазайздросьціўшы апініі расейскай казённай статыстыкі, палякі як бачым, пераняля ўсе яе спосабы, ды зрабілі яшчэ мо' і крок наперад у справе штукаваньня статыстычных данных. Вельмі аднак добра, што яны гэта робяць так неакуратна, што даюць сябе злавіць на самых відавочных фальшах. У будучыне, пры асьвятленьні больш невыразных з'явішчаў і пытаньняў, кожны будзе мець права падыходзіць да данных іхнай статыстыкі і іхніх вучоных вывадаў з належнай асьцярожнасьцю.

А. Ж.

# Дзьве Польшчы.

I

Некалі — за часоў існаваньня Расейскае Імпэрыі — на ўсенькім абшары яе йшла няўстанная барацьба паміж дзьвема сіламі. Бароліся між сабой: Старая Расея — цар, чынавенства і панства — з аднаго боку, і Новая Расея — народные масы, якіе рваліся да волі, — з другога.

Пад той час манархізм у Эўропе меў наймацнейшую ўладу ў Расейскай Імпэрыі і ў Нямеччыне. І тут, і там уласьць манарха была блізка нічым не абмяжована: у Расеі толькі пасьля рэвалюцыі 1905 году была заведзена Дзяржаўная Дума — куртатае і бязпраўнае народнае прадстаўніцтва, а ў Нямеччыне, хоць тамака парлямант існаваў ужо даўно, перавагу ў ім мела панства— „юнкеры“, багатые зямляўласьнікі і капіталісты, верные слугі „кайзара“. Расейскі цар і нямецкі кайзар бачылі, што на ўсенькім сьвеце манархізм аджывае ўжо свой век; бачылі, як навакол вольные народы раскідаюць струхлеўшые троны, — і дрыжэлі. Затое-ж дружба паміж імі была нязвычайная: кожын з іх разумеў, што, калі прыйдзе канец на аднаго, дык ня ўдзержыцца і другі. І вось, калі ў 1905 годзе выбухнуў па ўсей Расейскай Імпэрыі рэвалюцыйны рух, калі рэвалюцыя пагражала „Зімоваму Палацу“ ў Пецярбурзе, — ў усьці Нявы зьявіліся нямецкіе мінаносцы, каб у крытычны мамэнт забраць цара Мікалая з сямьёй і перавезьці ў баспечнае месца. Так „онкель“ Вільгэльм клапаціўся аб свайго любага пляменьніка!

Расейская Імпэрыя развалілася, пахараніўшы пад сваімі руінамі царскі трон. У сьлед за гэтым і нямецкі народ скінуў адвечнае ярмо ўлады кайзараў. Але і ў Расеі і ў Нямеччыне асталіся тые, каму гэтак добра, гэтак „цёпла“ жылося каля царскага і кайзараўскага тронаў. Усё маскоўскае і нямецкае панства і так-званая „тлустая“ буржуазія, уся нялічаная маса чынавенства — бюракратаў, якая безклапотна кармілася працай народу, — ўсе яны асталіся і ні на адзін мамэнт ня кінулі думкі аб павароце да ўлады іх дабрадзеяў, аб адбудове манархізму. Дэнікін і Врангель у Расеі, Капп — у Нямеччыне прабавалі аружнай сілай вярнуць манархізм. Ім — кожнаму паасобку — гэта не удавалася. Вось, цяпер яны зрабілі моцны саюз між сабой і супольнымі сіламі прыгатаўляюцца споўніць свае думкі.

Калі Расейская Імпэрыя толькі-толькі пачала валіцца, а ў Нямеччыне кайзар крэпка йшчэ сядзеў на сваім пасадзе, мы бачылі спробу немцаў насадзіць манархічную ідэю ў новаутвораных дэмакратычных гаспадарствах. Першым чынам у Літве. Склікіная пад кіраўніцтвам окупантаў літоўская Тарыба з Смэтонай і Шаўлісам на чале вельмі пакорна згодзілася з дамаганьнем ураду кайзэра і абабрала за караля Літвы вюртэмбэрскага князя Ураха, — толькі выбухнуўшая ў самай Нямеччыне рэвалюцыя не дала гэтаму немцу сесьці на сьпіну літоўскаму народу. — Другая спроба была зроблена на Украіне: тут фэльдмаршалак Эйхгорн штыхамі разагнаў Украінскую Раду, арыштаваў членаў дэмакратычнага ўраду і за галаву Украіны паставіў гэтмана Скоропадскага (свайго сваяка), надаўшы яму ўладу манарха. Дый тут не папанцавала: украінскі народ выгнаў вон гэтмана і тую маскоўскую чарнасоценскую свору, якая яго падтрымоўвала.

Гэта ўсё-ж не расхаладзіла расейска-нямецкіх манархістаў. Яны толькі зьмянілі палітыку і павялі яе ў першы чарод проці ўсіх новапаўстаўшых дэмакратычных рэспублік, кіруючыся перш за ўсё да адбудовы «единой недѣлимой Россіи». Яны праз сваіх агентаў верхаводзяць у бальшавіцкай Расеі, яны сіламі абаламучаных „чырвоных“ войск хочуць растаптаць усе гэные новые рэспублікі і вярнуць Расеі старые мэжы, — а тады „маўр пойдзе вон“: бальшавіцкі ўрад у вадзін міг счэзьне, а на яго месцы зьявіцца цар...

Уся эўрапэйская прэса ясна гаварыць аб гэтым. Газэты пішуць зусім выразна (дый на гэта ёсьць дакумэнты!), што леташні паход „чырвоных“ войск на Польшчу быў загаданы з Бэрліну, а фактычна камандаваў бальшавікамі царскі генарал Брусілов. Удар быў у першы чарод зроблены Польшчы, бо яна найдужэйша спаміж усіх новых рэспублік, і разьбіўшы яе, зьнішчыць другіе будзе простая забава! Паход скончыўся для бальшавікоў катастрофай. Але нямецка-расейскі манархічны цэнтр у Берліне на гэтым не супакоіўся: ня кідаючу думкі аб аружнай расправе з адпаўшымі ад Расеі народамі, манархічная арганізацыя хоча ўзрываць іх з сярэдзіны. Разьбіцьцё Рады Беларускае Народнае Рэспублікі ў Менску 13 сьнежня 1919 году было справацыравана прысланымі з Бэрліну агентамі, і мы на сабе пазналі, як умее „працаваць“ маскоўска-нямецкая чарнасоценная банда. Але асаблівую ўвагу гэтая банда зварочвае цяпер на Польшу.

II.

Падобна да таго, як былі (дый цяпер ёсьць) дзьве Расеі, — існуюць і дзьве Польшчы. Адна—гэта Польшча дэмакратычная, Польшча народная, каторая астаецца вернай адвечным традыцыям барацьбы з усялякім уціскам, барацьбы „за вашу і нашу волю“. Гэтая Польшча ў мамэнт выбуху нямецкай рэвалюцыі скінула ярмо окупантаў і стварыла соцыялістычны урад Морачэвскага, абвесьціўшы за свайго павадыра Язэпа Пілсудскага. Вызваліўшыся спад маскоўскага і нямецкага панаваньня, польскае сялянства і работніцкі люд былі зусім вольны ад усялякага імпэрыялізму, ад жаданьня няволіць другіе народы. Бяручы ўладу ў свае рукі, урад Морачэвскага фактычна прызнаў незалежную Беларускую Народную Рэспубліку, паслаўшы Радзе Рэспублікі офіцыяльнае паведамленьне аб сваім утварэньні. *)

На жаль, урад Морачэвскага, створаны воляй польскага працоўнага люду, існаваў нядоўга... Другая Польшча — Польшча панска-шляхоцкая, Польшча буржуазная і імпэрыялістычная, аказалася дужэйшай за Польшчу народную. Панства ізноў запанавала, дзякуючы падтрыманьню сваіх верных наймітаў-эндэкаў і ксяндзоў-нацыяналістаў, а такжа карыстаючыся цемнатой і абаламучанасьцю значнай яшчэ часткі народу. Панства камандуе ўсім: яно круціць соймам, а калі той супроць волі паноў ухваліў зямельную рэформу, паны не дапусьцілі да правядзеньня ея ў жыцьцё, а за тое падсунулі сойму апрацаваны паводле нямецкіх узораў праэкт каланізацыі Беларусі польскімі жаўнерамі, каб

*) Паведамленьне гэнае да рук Рады не дайшло: яно перасылалася церав Польскі Камітэт у Менску, і там польскіе паны, яго скапфіскавалі!

тые не дабіваліся надзяленьня іх дворнай зямлёй дома... Польскае панства, польскіе нацыяналісты (эндэкі) не затрымаліся навет перад спробай пасягнуць на начальніка гаспадарства — Язэпа Пілсудскаго, але іх змова не ўдалася!

Вось, гэпые дзьве Польшчы вядуць між сабой няўстанную барацьбу. Польшча панская кіруецца да таго, каб шляхта і паны ізноў маглі узсесьці на плечы народные, як гэта было ў царскай Расеі. Дый ім мала панаваць над народам польскім: яны хочуць паняволіць і беларусаў, і украінцаў, і літвіноў. Вось-жа іх агент Грабскі ў Рызе падзяліў Беларусь, і навет палякі з Беларусі кідаюць яму праклёнства, як Каіну! Да ўлады рвуцца акурат тые самые паны, якіе выстаівалі раней у сенцах царскіх і міністэрскіх палацаў у Пецярбурзе, якіе за белые камергерскіе порткі прадавалі свой народ і разам з маскоўскім панствам і чынавенствам выпрацоўвалі пляны, як задушыць рух да волі ў Польшчы. У панскай Польшчы маюць уладу старые „угадоўцы", што лізалі царскую лапу як-раз тады, калі яна найбольш была ўпэцкана крывёй працоўных мас (Эразм Пільц і др.), маюць уладу эндэкі з Раманам Дмовскім на чале, — тым самым, што гатоў быў паміріцца з Масквой на нейкай куртатай аўтаноміі Польшчы і лічыў за ворагаў Польшчы тых, хто жадаў незалежнасьці яе; маюць уладу Грабскіе, каторые і дагэтуль ня кінулі цішком шушукацца з былымі сябрамі „зьвёзднай палаты" пры цару, каторые для Польшчы жадаюць таго, чаго жадаюць Стэнбон-Фэрморы, Трэповы, Пурышкевічы для Расеі: к а р а л я! Даволі паглядзець тые кніжкі гісторыі Польшчы, на якіх вучаць польскую моладзь у школах: гэта-ж гісторыя ня Польшчы, ня польскага народу, а польскага манархізму!

Можам сьмела сказаць: сучасная Польшча— гэта Польшча панская. Яна па свайму духу—манархічная, варожая дэмакратызму, яна прагавіта на чужую зямлю, хоча няволіць другіе народы, хоць сама добра ведае смак чужое ўлады!.. Яна вельмі блізка да таго-ж бэрлінска-маскоўска-нямецкага цэнтру, каторы падбівае яе на імпэрыялістычную палітыку, на ўціск сялянства, работнікаў і усялякіх „інародцаў" (як беларусы, украінцы, жыды). Зьвязаная з Бэрлінам праз маскоўскіх чарнасоценцаў польская эндэцыя робіць у Польшчы бязупынны хаос, выклікае ўнутраную барацьбу, сварыць сваю Бацькаўшчыну з усімі суседзямі і гэтак аслабляе яе творчые сілы і духовую моц, руйнуючы разам з тым эканамічна.

Польскае панства, польская эндэцыя вядзе Польшчу да руіны і да загубы, як ужо раз—паўтараста гадоў таму назад—давяла яе да разьдзелу. Толькі Польшча народная, Польшча дэмакратычная магла-бы выратавацца ад страшэннай пагрозы новай няволі. І яна выратуецца, калі польскі народ зробіць парадак у сваей старонцы і ачысьціць яе ад рознага сьмяцьця!

III

Чы дзіва пасьля ўсяго сказанага, што з цяперашняй панскай Польшчай ніхто з суседзяў яе ня хоча злучацца?

Чы дзіва, што суседніе дэмакратычные народы баяцца, каб польскае панства не палажыла і ім на сьпіны свае цяжкую руку?

Усё гэта лішне ясна і зразумела. Але мы— суседзі Польшчы—павінны ўцяміць яшчэ вось што.

На ўсходзе Эўропы ёсьць у гэты мамэнт дзьве сілы, з якімі прымушаны рахавацца ўсе новапаўстаўшые рэспублікі. Гэта—Польшча і Расея. У далейшым сваім жыцьці усім нам прыдзецца абаперціся ці на адну, ці на другую з дужэйшых суседак. Каторую-ж выбраць?

Вось самае вострае пытаньне сучаснага мамэнту.

Абаперціся на Расею? Але-ж Расея бальшавіцкая ўсё роўна іх завае—ці то аружжам, ці „ўнутраным узрывам". А калі бальшавізм згіне і на яго месца вернецца манархія,—тады ня толькі будзе стаптана ідэя незалежнасьці новых народных рэспублік, але і нацыянальные правы „інародцаў", а ў першы чарод беларусаў і украінцаў.

Гэтак для незалежнікаў, для праўдзівых дэмакратаў ня можа быць гутаркі аб орыентацыі на Маскву—ці то на Маскву Леніна, ці Гучкова.

Значыць, выбраць Польшчу?

Калі йдзе гутарка аб Польшчы сучаснай, аб Польшчы Грабскіх і Дмовскіх, дык хіба ня знойдзецца ніводнага беларуса, каторы-бы сказаў: т а к! Але апрача гэнай панскай Польшчы, ёсьць і тая другая—народная, тая, што на адзін мамэнт паказала свой праўдзівы твар, выганяючы наездчыкаў і творчы запраўды дэмакратычны ўрад Морачэўскага, стаўляючы на чале гаспадарства Язэпа Пілсудскага.

З тэй другой Польшчай мы хочам і можам існаваць. Яна цяпер таксама паняволена, як і мы. Яе таксама закавалі ў ланцугі, як і наш народ. Яе таксама вядзе да пагібелі чорны цэнтр рэакцыі ў Бэрліне, як і нашу Бацькаўшчыну.

Праўда, самі па сабе „інародцы", якіе ў гэты мамэнт знаходзяцца ў „межах польскага дасяганьня", слабые, нядужые. Але, калі мы ўсе згаворымся, калі падамо сабе руку і дружна рушым проці ворагаў, дык ніхто і нішто супраціўіцца нам ня здолее. А супольная барацьба за „вашу і нашу волю"—за вольную Польшчу і незалежную Беларусь—будзе тым залатым мастом, які аб'еднае д э м а к р а т ы ч н у ю Польшчу з яе суседзямі ў вялікую і магутную У с х о д н ю ю Ф э д э р а ц ы ю на аснове слаўнага кліча: р о ў н ы е з р о ў н ы м і, в о л ь н ы е з в о л ь н ы м і.

В. Калиноўскі.

Горадня.

## Француская газэта аб беларускай справе

У „Le moniteur du commerce" (№ 578) паявілася стацьця пад загал. „Паможам аслабаніць народы Беларусі і Украіны", у якой між інш. гаворыцца:

„Калі ў верасьні 1920 г. немцы пабачылі няўдачу сваіх саюзьнікаў, маскоўскіх камуністаў, няўдачу, якая магла быць прычынай канца бальшавіцкай тыраніі, але каторую ім яшчэ трэба падтрымліваць, каб правесьці ў жыцьцё свае пляны датычна палітычнага і эканамічнага паняволеньня будучай Расеі,—яны зараз-жа пачынаюць распаўсюджваць у газэтах патрэбу міру Польшчы з маскоўскай аўтакрацыяй. Каб заахвоціць Польшчу да гэткага міру, немцы падгаварылі камуністаў зрабіць гэтакіе на карысьць Польшчы тэрыторыяльные ўступкі, якіх яна ніколі не спадзявалася. Нямецка-бальшавіцкіе штукі ўдаліся: беларускіе землі, ахвяраваные Поль-

шчы, сьведчаць ня толькі аб польскім імпэрыялізме, але таксама могуць стацца прычынай вайны між Польшчай і новай Расеяй, якая мабыць будзе тады апякункай Беларусі, сфэдэраванай з ёю. Нямецкая прапаганда будзе таксама даказваць патрэбу саюзу між Польшчай і Францыяй, маючы надзею, што Францыя ў якойсьці ўмове з сваёй польскай саюзьніцай прызнасьць гэтые тэрыторыяльные захваты і будзе прымушана зчасам выступіць проціў Расеі, якая тады павінна будзе кінуцца ў абоймы Нямеччыны.

„Перадышка, зробляная ў кастрычніку 1920 г. між Польшчай і немцо-бальшавікамі, дала гэтым апошнім магчымасьць згуртаваць сілы, якіе былі ў іхніх руках, проціў зморанных ужо беларускага і украінскага народаў. Але гэтые народы аднак не спынілі сваей барацьбы з захватнікамі, якая ўжо больш за тры годы апусташае іх тэрыторыю. Беларускіе і украінскіе дывізіі пад бальшавіцкім націскам прымушаны адступіць на польскую тэрыторыю, гдзе іх інтэрнавалі ў концэнтрацыённых лагерах...

„Перад новымі пагрозамі пангерманска-бальшавіцкага саюзу проціў істнаваньня нашай саюзьніцы, Польшчы, ці мы маем права, а галоўным чынам, ці гэта вымагае наш інтэрас, каб памагчы гэтым двом геройскім народам, калі мы ўжо гэтак шчодра памагалі расейскім монархістам, іншы раз навет некарысна для расейскага народу? Няўжо-ж наша ваенная місія ў Варшаве не павінна ўзяць у свае рукі справу беларускіх і ўраінскіх інтэрнаваных у Польшчы аддзелаў, рэарганізаваць іх у сільные баевые адзінкі дзеля аслабаненьня іхніх старонак, якіе знаходзяцца, не забывайма-ся, у межах нашага эканамічнага ўплыву“..

З цікавасьцю адзначаем тут голас францускай газэты, які сьведчыць аб зразуменьні ў заходняй Эўропе таго, што справа беларуская і украінская ня ёсьць „ўнутраные расейскіе справы“, а ад развязкі іх залежыць трывалы мір на ўсходзе.

# Да Беларускага Грамадзянства.

Стогнуць, енчаць лес і горы,
Аж пад неба плач ляціць...
Беларусам з горкай доляй
Цяжка у няволі жыць.
Ужо рок семы як з кайданау
Нельга вырваць рук і ног,—
За што-ж столькі мук і гора
Шле нам Міласэрны Бог?..
Гэй! браточкі—Беларусы!
Дзеці беднае зямлі!
Клічце у помач, на ратунак,
Усіх з славянскае зямлі!..

Н. Леучык.

З ліку чарговых пытаньняў сучаснасьці прад Беларускім грамадзянствам асабліва ярка ўстае пытаньне аб уцекачох і наогул аб ўсіх пакрыўджаных вайной. Уся заходняя частка Беларусі ляжыць ў руіне; палі—парасьлі бярэзінай, альшынай, вёскі і мястэчкі—спалены і разбураны, лясы—павырубляны, а гаспадары гэтае зямелькі —або разсыпаліся па ўсей Расеі, або сьпяць ў мацi-сырой зямлі пад тымі бязвестнымі, сіратлівымі магілкамі, каторымі так густа абазначаны шляхі падняволь-най уцечкі нашых братоў пад нагайкай царскай апрычніны, або—у паласе б. расейска-нямецкіх акопаў гніюць зажыва ў зямлянках, бліндажох і іншых акопных будоулях. І толькі вельмі нязначная частка застаўшыхся ў хаце і зьвярнуўшыхся з „бежэнства“ маюць такую-сякую будоўлю і гаспадарскіе прылады...

З якого-б боку ні падыйці да гэтай справы:— грамадзянскага, эканамічнага ці гуманітарнага — усё роўна яна займае першае месца, бо гэта ня толькі „пытаньне“ або „справа“, але балячка, немач ўсей нашай Бацькаўшчыны і яе разьвязка гэтак ці інакш—будзе мець рашучаю вагу дзеля ўсей нашай будучыні. І, ведама, гэтая справа-справа саміх Беларусаў, самага Беларускага грамадзянства, яго ахвярнасьці, здольнасьці на агульны высілак, супольную солідарную працу яго грамадзянскай і нацыянальнай свядомасьці. У гэтай справе беларускаму грамадзянству ёсьць магчымасьць здаць экзамен з патрыятызму і паказаць усяму сьвету, што Беларусь жыве, мае сваё свядомае і патрыятычнае грамадзянства, і што ўсялякіе казкі аб тым, што Беларусь гэта „імгла“—брахня тых, хто няздольны ўбачыць і лічыцца з фактамі і даць ім належную ацэну.

І вось дзеля таго, каб гэтую справу паставіць урэшці на грунт рэальнае працы, з ініцыятывы і стараньнем ніжэйпадпісанага, групай беларускіх дзеячоў утварылося ў Варшаве „Беларускае Таварыства дапамогі ахвярам вайны“, статут каторага, апрацаваны ініцыятарам, зацьвержаны ўжо Міністэрствам ўнутраных справаў Польскай Рэспублікі. Таварыства мае на мэці нясьці матэрыяльную і ўселякую іншую дапамогу як уцекачом, так і ўсім наогул покрыўджданым сусьветнай вайной або бальшавікамі ў часе іх апошняга наезду. Дапамога гэта будзе дана ў першую чаргу грамадзянам-беларусам, а ў меру магчымасьці асобам і іншай нацыянальнасьці. Дзейнасьць Таварыства абымае ўсю тэрыторыю Польскай Рэспублікі, але пэўне-ж праца будзе вясьціся галоўным чынам—на тэрыторыях Віленшчыны, Горадзеншчыны і Меншчыны.

Уся праца Таварыства разьдзяляецца на тры акцыі: 1) ратаўнічую, якая мае на мэці дапамогу уцекачом ў дарозе і на мясцох, пакуль яны ня змогуць стаць самі на ногі, а таксама і ўсім няздольным да працы і ня маючым апекі сваякоў і радні; 2) акцыю дапамогі ў адбудові гаспадарак і наладжэньні ў іх працы і 3) дапамогу ўсім безпрацоўным і патрабуючым заробку. Уся дзейнасьць Таварыства будзе скіравана на тое, каб кожны мог атрымаць магчымасьць сам сабе зарабляць на хлеб. Дзеля гэтага Таварыства будзе выдаваць грашовые і іншые дапамогі, гуртаваць паасобных гаспадароў і работнікаў у хаўрусы або артэлі і сіламі гэтакіх хаўрусоў выпаўняць усялякіе работы па эксплёотацыі лясоў, тарфянікоў і г. д., будуць адчыняцца ўсялякіе заводы, хвабрыкі і прадпрыемствы; сялянам будуць дадзяны дапамогі на адбудову гаспадарак, інвэнтар, насеньня і ўсё іншае, патрэбнае для працы, а ўсе, няздольные да працы—дзеці-сіроты, старые, калекі, — атрымаюць апеку і дапамогу харчамі, вопраткамі і г. д. Адным словам—праграма працы Таварыства абымае ўсе галіны жыцьця і яе зрэалізаваньне адбудуе край, падыме яго з руінаў, ажывіць і паставіць на ногі.

Ведама, выпаўненьне мэт Таварыства патрабуе вельмі многа грошай; але грошы—маемо надзею—знойдзем: дадуць на гэтую справу грошы і Эўропа і Амэрыка, бо справа адбудовы Беларусі — ляжыць у інтарэсі ўсяго свету, як і наогул кожная справа, выкліканая сусьветнай вайной. Але каб вясьці самую справу, як і дзеля атрыманьня гро-

шай патрэбна перш-на-перш падтрыманьне ўсяго грамадзянства, яго салідарнасьць і воля да працы. Гэтае падтрыманьне павінна быць дадзена Таварыству і ў матэрыяльным і моральным сэнсі, ў самым шырокім маштабе. Ніхто з грамадзян Беларусі ня мае права ўхіляцца ад працы, якую распачынае Таварыства, кожны павінен даць што можа, прынясьці сваю ахвяру!

Грамадзяне-беларусы! Усе, хто лічыць сябе сынам Беларусі, каму дарагі інтарэсы гэтага краю, хто разумее, што справа адбудовы краю і наладжэньня ў ём працы — ёсьць наказ моманту і святы абавязак, а адначасна—і супольны інтарас ўсяго грамадзянства наогул і кожнага грамадзяніна паасобку—гуртуйцеся каля „Беларускага Таварыства дапамогі ахвярам войны“.

Усе, хто бачыў вялікую руіну нашае Бацькаўшчыны, сьлёзы, гора, зьдзек, паняверку, муку і тысячы магіл абяздоляных нашых братоў—ідзеце к нам!

Праца, вялікая, сьвятая праца чакае нас; ляжачая ў немачы і руіне маці наша, Беларусь, кліча ўсіх на помач і ратунак! Пойдзем-жа і поплеч, будзем спаўняць свой святы абавязак! І памятайце, што гэтая праца—праца вельмі спешная; кожны дзень, а навет гадзіна змарнаваные цяпер— маюць пасьледкі, каторые ніхто і ні ў чым ня зможа пасля кампэнсаваць! Запісвайцеся-жа як-га ў сябры Таварыства, нясеце яму свае сілы і матэрыяльные ахвяры!

Б. кн. Друцкі-Падбярэскі.

Запісы ў сябры і ахвяры тымчасам прымаюцца: ў Варшаве—Беларускі Камітэт, Шпітальна 12, кв. 29; ў Вільні—Беларускі Камітэт, Вострабрамская 9.

Тымчасовы ўрад Таварыства знаходзіцца ў Варшаве і складаецца з 3 асоб: Б. Друцкага-Падбярэскага, Лявона Дубейкоўскага і Антона Трэпкі.

## Вандалізм.

На Катэдральным пляцы застаўся п'едэстал памятніка Кацярыны. Ім дагэтуль ніхто яшчэ не заапекаваўся, ня гледзячы на ягоную мастацкую вартасьць. Камяньні з балюстрады параскідуты па садзіку, а навет валяюцца і за агародай. Нейкіе хлопцы часта разьбіваюць застаўшыеся часткі балюстрады, думаючы мабыць, што гэтым робяць „патрыятычнае“ дзела. Што наш Магістрат не запякуецца застаўшыміся часткамі памятніка, дык няма дзіва, бо ён цяпер ня мае часу, заняўшыся палітычнымі справамі, але ўсёжткі шкада, каб марнаваліся рэчы, якіе маюць вартасьць. Вайна бяз нашай волі і так шмат зьніштожыла, шмат разваліла твораў людзкой працы, але наштож мы маем самі ўласнымі рукамі дапамагаць справе разбурэньня нашай Вільні?

Прыдзе час, калі пачнецца мірнае нармальнае жыцьцё, калі сьціхнуць палітычная калатня і нацыянальные антаганізмы, і мы, грамадзяне Вільні, пачнем адбудоўваць і прыаздабляваць наш горад. З Вільняй зьвязаны кожнага з тутэйшых народаў успаміны аб слаўнай мінуўшчыне, кожны захоча ўвекавечыць сваіх нацыянальных герояў і натхнёных песьняроў. І ўсё застаўшаеся нязруйнаваным можна будзе выкарыстаць дзеля аздобы адраджаючайся Вільні.

Не трымаймося бальшавіцкага клічу, што, каб збудаваць нешта новае, трэба ўсё старае зруйнаваць да асновы.

## Беларускі тэатр.

21 красавіка ў Гарадской салі быў першы спэктакль нядаўна сарганізаваўшагося беларускага драматычнага гуртка. Пастаўлена была пьеса Аляховіча „Птушка шчасьця“ (першы раз у Вільні). Пьеса і яе выкананьне вельмі спадабаліся публіцы.

Пасьля пьесы быў канцэртны аддзел, у якім выступіў Славянскі (?!) хор, які вельмі прыгожа прапяяў колькі песьняў. Трэба толькі адзначыць, што публіка была вельмі зьдзіўлена, пачуўшы на беларускай вечарыне між інш. песьні небеларускіе, хаця на афішах было выразна напісана, што будуць пяяць пабеларуску.

# Абвешчаньне.

Беларусы-Амэрыканцы, каторые ў гэты час варочаюцца з Амэрыкі дамоў, павінны ведаць, што іх можа спаткаць вельмі цяжкая крыўда, калі яны будуць праходзіць праз бальшавіцкіе місіі, якіе знаходзяцца ў Лібаве, Рызе і Рэвелі.

Справа вось у чым: Бальшавіцкіе місіі вельмі гасьцінна прымаюць эмігрантаў, што варочаюцца з Амэрыкі, але пасля—эмігрантаў трасуць і адбіраюць ад іх амэрыканскіе доляры, даючы замест іх савецкіе грошы, якіе, як ведама, нічога амаль ня варты. Робіцца гэта як-бы пад тым відам, што ў Савецкую Расею ня можна ўвазіць чужых валют.

Такім чынам, людзі, зарабіўшые гадамі цяжкай працы тысячу ці колькі сот доляраў, каб купіць сабе зямлі, памагчы сваім родным, альбо як інакш па людску збудаваць сваё жыцьцё, могуць апынуцца і бяз грошай, і бяз зямлі, і навет без магчымасьці ізноў вярнуцца ў Амэрыку, якая цяпер ня пушчае да сябе эмігрантаў з Расеі.

Аб гэтай небасьпецы Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт паведамляе ўсіх беларусаў рээмігрантаў з Амэрыкі і просіць другіе газэты перадрукаваць гэта абвешчаньне, асабліва ў амэрыканскіх выданьнях.

Прэзыдыум Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту.



Друкарня „ДРУК“, Вострабрамская, 5. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.